АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

# АЛЕКСАНДРЫЯ



ВЫДАВЕЦТВА
АКАДЭМІІ НАВУК
БЕЛАРУСКАЙ ССР

МІНСК 1962

Рэдактар
член-карэспандэнт Акадэміі навук СССР
прафесар В. І. БАРКОЎСКІ

Складальнік У. В. АНІЧЭНКА



# АД СКЛАДАЛЬНІКА

Рукапісная спадчына старажытнай беларускай пісьменнасці вельмі вялікая і разнастайная па зместу, форме і тэрытарыяльнай прыналежнасці. Некаторыя арыгінальныя і перакладныя, а таксама старадрукаваныя пісьмовыя крыніцы на беларускай мове з'яўляюцца здабыткам шырокага кола чытачоў, бо былі апублікаваны яшчэ ў дарэвалюцыйны час. Не ўсе выдадзеныя старажытныя помнікі беларускай пісьменнасці, на жаль, з'яўляюцца аўтарытэтнымі ў лінгвістычных адносінах.

Карыстанне бібліяграфічна рэдкімі ў наш час першакрыніцамі звязана з вялікімі цяжкасцямі, таму што яны захоўваюцца галоўным чынам у дзяржаўных бібліятэках і архівах, размешчаных за межамі нашай рэспублікі. Між іншым, многія з такіх помнікаў змяшчаюць цікавыя факты, якія маюць вялікае значэнне для гісторыкаў, літаратараў і асабліва для даследчыкаў беларускай мовы, бо даюць багаты матэрыял пры вывучэнні пытанняў, звязаных з высвятленнем яе граматычнага ладу і слоўнікавага саставу на розных этапах іх развіцця. Усім гэтым і абумоўлена неабходнасць выдання вельмі важных і каштоўных на даным этапе рукапісных крыніц старажытнай беларускай пісьменнасці.

Сярод яшчэ не апублікаваных, але буйных і цікавых твораў на беларускай мове значную цікавасць прадстаўляе перакладная аповесць «Александрыя».

Сказанні аб Аляксандры Македонскім (памёр у 323 г. да н. э.) шырока вядомы ў сусветнай літаратуры. Яны ўзніклі, як мяркуюць, неўзабаве пасля смерці Македонскага, а ў II — III стагоддзях н. э. былі аформлены ў самастойны твор на грэчаскай мове. Пазней, у IV стагоддзі, з'явіліся лацін-

скія рэдакцыі «Александрыі», якія затым распаўсюджваліся ў Заходняй Еўропе. У далейшым «Александрыя» была пашырана ў паўднёва- і заходнеславянскіх літаратурах — балгарскай, сербскай, чэшскай, польскай і інш.

Вялікай папулярнасцю карысталася «Александрыя» на Русі, дзе яна існавала ўжо ў X — XII стагоддзях, а ў XIII стагоддзі ў перапрацаваным выглядзе ўваходзіла ў састаў хранографаў. Не меншае пашырэнне атрымала гэта аповесць і ў старажытнай беларускай літаратуры на працягу XV — XVII стагоддзяў[1].

Поўны тэкст з вядомых нам беларускіх спісаў «Александрыі» змешчан у рукапісным зборніку XVII стагоддзя, які захоўваецца ў Дзяржаўнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе ( F. XVII, № 5). У гэтым зборніку аповесць, напісаная скорапісам XVII стагоддзя, займае лл. 1—45 б. Памылкова лл. 73—76 б., якія з'яўляюцца працягам «Александрыі» паміж лл. 5 б. і 6, знаходзяцца ў канцы змешчанай тут аповесці «Аб Троі».

Другі поўны спіс, напісаны паўуставам, адносіцца таксама да XVII стагоддзя. Рукапіс аповесці па гэтаму спісу змешчан у хранографе XVII стагоддзя (лл. 395 — 468 б.), які захоўваецца ў Дзяржаўнай бібліятэцы імя У. І. Леніна ў Маскве (№ 2405).

Трэці, скарочаны скарапісны спіс XVII стагоддзя змешчан у хранографе («Хроніка М. Бельскага») і захоўваецца ў Дзяржаўнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе (F. VI, 688). Па аб'ёму гэты спіс невялікі, у рукапісе ён займае лл. 183 — 197 б.

Чацвёрты без пачатку спіс «Александрыі» 1697 года напісаны скорапісам (102 л.). Ён знаходзіцца ў Дзяржаўнай бібліятэцы імя У. І. Леніна ў Маскве (№ 1562).

З пятага спіса дайшоў да нас невялікі ўрывак, напісаны паўуставам XV стагоддзя і змешчаны на першых двух лістах рукапіснага зборніка XVII стагоддзя, які захоўваецца ў Дзяржаўнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе (Q. XVII, 257). Аднак, мяркуючы па зместу, паміж лл. 1 б. і 2, дзе павінна апавядацца аб вайне Аляксандра Македонскага з індыйскім царом Порам, няма лагічнай сувязі: л. 1 канчаецца падрыхтоўкай Аляксандра да бою з Порам, а л. 2 пачынаецца падзеямі, якія адбываюцца пасля

[1] Георгій Скарына ў прадмове да ўсёй «Бібліі» пісаў: «Ащели же кохание имаши ведати о военныхъ а о богатырскихъ делехъ чти книги Судей, или книги Махавеевъ. более и справедливее в нихъ знайдешъ, нежели во алеѯандрии или во Трои» (книга «Бытия». Предъсловие доктора Франъциска Скорины с полоцъка во всю бивлию руского языка. Прага, 1519, л. 3 б.).

Яшчэ адным сведчаннем папулярнасці «Александрыі» на Беларусі можа служыць прыпіска ў няпоўным спісе аповесці 1697 года, дзе гаворыцца. «Павло що ранку читаетъ алеѯандрѣю за щастя то собѣ мае» (л. 95 б.).

перамогі над індыйскімі войскамі. Лісты з гэтым прамежкавым эпізодам не захаваліся ў рукапісным зборніку.

Шосты, найбольш поўны стараруські ў сваёй аснове спіс «Александрыі» з некаторымі беларусізмамі, які ўдалося знайсці ў апошні час дзякуючы садзейнічанню прафесара П. С. Звалінскага, напісан паўуставам канца XVI — пачатку XVII стагоддзя (229 л.) і захоўваецца ў Курніцкім музеі ў Польшчы (умоўна назавём яго Курніцкім спісам).

Асноўнай крыніцай для першых двух поўных спісаў «Александрыі» паслужыў польскі пераклад аповесці («Historya o żywocie y známienitych spráwách Alexandra Wielkiego, krolá Mácedońskiego, ktora w sobie wiele przykłádow cudnych zámyka, każdemu rycierskiego stanу człowiekowi ku czytániu pożyteczna y potrzebna». W Krakowie, 1550; 2-е выд. 1611; 3-е выд. 1701), арыгіналам для якога была лацінская рэдакцыя «Historya de proeliis».

Прывядзём узор перакладу:

**Лацінскі тэкст:**

Sapientissimi namque Egyptii scientes mensuram terre atque urdis maris dominantus et cele stium ordinem cognoscentes, id est stellarum cursum conputantes, tradiderunt ea universo mundo per altutudinem doctrine et per magicas artes.[1]

**Польскі пераклад:**

Egyptcyánie mądrzy rozumieiąc miarę ziemie, rożność wod morskich, y rząd niebieski, to iest, bieg gwiazdeczny, y też ruszanie okręgu niebieskiego, ktorzy też ná wszystek świat wydáli bárdzo szeroko uznanie náuk czárnoksięskich.[1]

**Беларускі пераклад:**

*(Ленінградскі спіс)*

Египтꙗне мȣдрии розȣмѣючи мѣрȣ земли, розность водъ мо$^{р}$скихъ, и рꙗдъ небески' знаючи, то есть бѣгъ звѣздны', и те$^{ж}$ рȣша$^{н}$е ѡкрȣгу небе$^{с}$ного, котории тежъ на ве$^{с}$ свѣтъ выдали ве$^{л}$ми широко ȣзна$^{н}$е наȣкъ че$^{р}$нокни$^{ж}$ски$^{х}$ (л. 1)

**Беларускі пераклад:**

*(Маскоўскі спіс)*

Егѵ́птѧне мȣ́дрыи розȣмѣ́ючи мѣ́рȣ земли̂ ро́зностъ во́дъ морски́хъ, и рѧ́дъ н[е]б[е]$^{с}$ный зна́ючи, то̀ е́сть бѣ́гъ звѣ́здный, и те$^{ж}$ рȣша́нье ѡкрȣгȣ н[е]б[е]$^{с}$наго, кото́рый те$^{ж}$ нà ве́сь свѣ́тъ вы́дали вельми̂ широ́ко оузна́нье наȣкъ чернокни́жкихъ (л. 1)

---

[1] Урывак з лацінскай рэдакцыі «Historya de proeliis» прыведзен па даследаванню В. М. Істрына «Александрия русских хронографов». М., 1893, стар. 313—314, а ўрывак з польскай «Александрыі» — па рабоце акадэміка Я. Ф. Карскага «Белорусы», т. III, вып. 2. Петроград, 1921, стар. 72.

Характэрна, што рэдакцыі двух спісаў «Александрыі» ў аснове сваёй супадаюць паміж сабой. Тэксталагічныя разыходжанні датычацца толькі некаторых месц аповесці, прычым найбольш поўным і дакладным з'яўляецца Ленінградскі спіс. Напрыклад, у Ленінградскім спісе чытаем: вышо$^{л}$ прочъ з полаты; у Маскоўскім — вышолъ з полаты; воротившисе до тирȣ нашолъ — воротившисе нашолъ; на него ве$^{л}$ми много — на него много; от дариꙗ послани до цариꙗ — от Даріѧ до ц[а]рѧ; абовѣмъ богъ амонъ — абовѣмъ амонъ; царъ ихъ ȣже не бы$^{л}$ найденъ — царь ихъ не бы$^{л}$ найденъ; ȣхвативши теды птаха — оухвативши птаха. Акрамя таго, у Маскоўскім спісе ўлічаны не ўсе прыпіскі на палях рукапісу, якія рабіў перакладчык Ленінградскага спіса для таго, каб растлумачыць некаторыя лексічныя архаізмы ў тэксце.

Усё гэта, а таксама прыкметная розніца ў граматычным афармленні абодвух тэкстаў дае падставу меркаваць, што Ленінградскі і Маскоўскі спісы не былі перапісаны адзін з другога і не ўзыходзяць толькі да адной крыніцы — польскай рэдакцыі «Александрыі». Перакладчыкам разглядаемых спісаў, акрамя польскага выдання, відаць, былі вядомы таксама некаторыя іншыя, прамежкавыя рэдакцыі. Мяркуюць, напрыклад, што апавяданні аб зборы перцу, аб райскай рацэ Інданосе і імя аўтара «Александрыі» Арыян запазычаны з грэчаскага арыгінала, а эпізоды аб знаходжанні Аляксандра на абедзе ў персідскага цара Дарыя і ўцёках яго расказаны па сербскай рэдакцыі «Александрыі».[1]

У лінгвістычных адносінах поўныя тэксталагічна супадаючыя спісы «Александрыі» прадстаўляюць вялікую цікавасць. Яны даюць пэўную падставу меркаваць, якія асаблівасці і шляхі развіцця мела беларуская літаратурная мова ў XVII стагоддзі.

З аднаго боку, агульнымі ў абодвух спісах з'яўляюцца такія рысы беларускай мовы, якія не адлюстраваны або сустракаюцца рэдка ў другіх перакладных помніках старажытнай беларускай пісьменнасці гэтага перыяду. Сюды адносіцца, напрыклад, пранікненне канчатка **-у** ў назоўнікі роднага склону адзіночнага ліку з канкрэтным значэннем (до оного гмаху, до палацу, з нилу реки, до коринту, зъ египту, з листу, до тиру, до дамаску, от столу); пашырэнне канчатка **-овъ (-евъ)** у назоўніках множнага ліку роднага склону з асновай на **-о** (рицеровъ (рицеревъ), мечовъ, мужевъ, учителевъ); ужыванне дзеясловаў першага спражэння цяперашняга і будучага простага часу ў трэцяй асобе адзіночнага ліку без канчатка **-т(ъ)** (почне, пануе, пошле, шле, мае, буде, стане, возме, може); наяўнасць інфінітыўных форм на **-ть** (одержать, быть, послать); ужыванне такіх слоў, якія за-

[1] В. М. Истрин. Александрия русских хронографов. М., 1893, стар. 315.

хаваліся да апошняга часу і з'яўляюцца пашыранымі ў сучаснай беларускай мове (мова, хто, што, розмова, вѣдати, дѣти, дитя, лава, жадати, заховати, досыть, птахъ, спытати, нехай, година, почати, робити, той, туды, сюды, моцный, мѣти, бачити, краина, хуткий, никий, особа, особный, поволность, коштовный).

З другога боку, калі ў Ленінградскім і Маскоўскім спісах прасачыць адны і тыя ж граматычныя катэгорыі і формы, то выяўляецца, што яны нярэдка не супадаюць паміж сабой і перададзены ў розным граматычным афармленні. У сувязі з гэтым можна ўстанавіць, у якім напрамку адбывалася развіццё граматычнай сістэмы старажытнай беларускай літаратурнай мовы, дыялектныя асаблівасці якіх беларускіх народных гаворак знайшлі сваё адлюстраванне ў аналізуемых спісах «Александрыі», а гэта ў сваю чаргу дазволіць вырашыць некаторыя пытанні, звязаныя з месцам іх напісання.

Разглядаемыя спісы «Александрыі» адлюстроўваюць у дастатковай ступені асаблівасці жывой народнай тагачаснай беларускай мовы. Разам з тым тут сустракаюцца і паасобныя старажытныя, традыцыйныя моўныя элементы, ад уплыву якіх перакладчыкі не маглі яшчэ поўнасцю вызваліцца. Звяртае на сябе ўвагу той факт, што больш старажытныя катэгорыі і формы не ў аднолькавай меры захаваліся ў адным і другім рукапісах. Параўнанне моўных сродкаў у іх дае падставу меркаваць, што мова Маскоўскага спіса насычана большай колькасцю фанетычных, марфалагічных і лексічных архаізмаў, чым мова Ленінградскага спіса.

Для Маскоўскага спіса характэрным з'яўляецца ўжыванне галоснага гука **е** не пад націскам пасля спрадвечна мяккага шыпячага **ж**, тады як у Ленінградскім спісе ў такім становішчы знаходзім **а**: пожедаешъ — пожадаешъ, жедаю — жадаю, жератокъ — жаратокъ.

Замест літары ѣ, якая пераважае ў Маскоўскім спісе як вынік традыцыйнага напісання, у Ленінградскім спісе ў гэтых і аналагічных ім формах пераважае **е**: ѣдучїи — едучии, ѣхалъ — ехалъ, ѣздныхъ — ездныхъ, рѣчи — речи, приѣхали — приехали, стрѣлу — стрелу, сѣдите — седите, потаемнѣ — потаемне.

У Маскоўскім спісе пасля спрадвечна мяккіх шыпячых і **р** пад націскам і не пад націскам пераважае галосны **е**, а ў Ленінградскім на месцы гэтага гука часта ўжываецца **о**: мужеве—мужове, вышелъ — вышолъ, женою — жоною, приоболочены — приоболочоны, четыри — чотыри, жерела — жерола, пребываютъ — пробываютъ.

У Маскоўскім спісе магчымы выпадкі захавання ў пачатку слоў галоснага гука **е**, калі ў другім складзе пад націскам знаходзяцца галосныя **е**, **и**. Для Ленінградскага спіса ў аналагічных выпадках характэрнымі з'яўляюцца словы з пачат-

ковым галосным **о**: езеро — озеро, единъ — одинъ. Першаму спісу ўласціва таксама захаванне няпоўнагалосных форм **ла**, **ло**, **ро**, **ре** ў становішчы паміж зычнымі, а ў другім пануючымі з'яўляюцца формы з двухбаковай агаласоўкай: облакъ— оболокъ, гласы — голосы, предъ — передъ, преходили — переходили, пременѧемъ — переменꙗемъ, престане — перестане[1]. Звычайным для Маскоўскага рукапісу з'яўляецца ўжыванне зычнага **в** у пачатку слоў, тады як у Ленінградскім на месцы яго пішацца **у**: взѧла — узꙗла, въпотемку — употемку. У Маскоўскім спісе ў дзеяслоўных формах прошлага часу адзіночнага ліку мужчынскага роду пасля галосных захоўваецца суфікс **л**, у той час як у Ленінградскім пры ўказаных умовах адзначаны пераход **л** у **в**: положилсѧ — положивсꙗ.

Спрадвечна мяккія шыпячыя **ж**, **ш**, шыпячая афрыката **ч** і свісцячая афрыката **ц** у Маскоўскім спісе часта захоўваюць сваю мяккасць, а ў Ленінградскім шырока адлюстравана зацвярдзенне гэтых гукаў: ижь — ижъ, мужь — мужъ, жедаю — жадаю, прочь — прочъ, помочь — помочъ, дожчевой — дожчовой, звитежци — звитежцы, рицери — рицари, грецѣю— грецыю, рицеревъ — рицаровъ, шибеници — шибеницы. Дысімілятыўныя змяненні, у выніку якіх адбываецца распадабненне заднеязычных гукаў, сустракаюцца не ў Маскоўскім, а ў Ленінградскім спісе: кто — хто.

Агульнаславянскае спалучэнне zdj у Маскоўскім спісе перадаецца праз **жд**, **ждч**, а ў Ленінградскім гэтаму спалучэнню адпавядае **жч**: выѣждѧючи — выежчаючи, выѣждѧть— выежчать, проѣждѧлъ — проежчалъ, дождчевой — дожчовой.

У сістэме скланення назоўнікаў у Маскоўскім спісе выдзяляюцца такія старажытныя асаблівасці, як захаванне ў творным склоне множнага ліку ў асновах на **-о** форм, агульных з формамі вінавальнага склону множнага ліку. У Ленінградскім спісе ў такіх выпадках сустракаюцца канчаткі, якія праніклі з асноў на **-і** або на **-а**: зъ острими желѣзы — зъ острими желѣзми. Поўныя прыметнікі мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку ў ненаціскным і націскным становішчах у Маскоўскім спісе канчаюцца на **-аго** (**-ѧго**), а ў Ленінградскім у гэтых словах адлюстраваны канчатак **-ого** (**-его**): морскаго — морского, жаднаго — жадного, коштовнаго — коштовного, лениваго — ленивого, маковаго — макового, македонскаго — македонского, великаго — великого, высокаго — высокого, нынешнѧго — нынешнего, вчорашнѧго — вчорашнего. Аналагічная з'ява назіраецца і пры скланенні ўказальных займеннікаў: онаго — оного. У назоўным

[1] Сярод няпоўнагалосных форм сустракаюцца і некаторыя паланізмы, напрыклад, у Ленінградскім спісе: слонечному, у Маскоўскім: превитѧжалъ, прегадалъ.

склоне множнага ліку для поўных прыметнікаў, якія сустракаюцца ў Маскоўскім спісе, характэрным з'яўляецца канчатак -їи пры адпаведнасці яму ў другім рукапісе канчатка -ыи: границы заходнїи — границы заходныи, мѣста околичнїи — мѣста околичныи, мужи трудоватїи — мужи трудоватыи, мужи хромїи — мужи хромыи. Такая неадпаведнасць канчаткаў сустракаецца і ў дзеепрыметніках залежнага стану прошлага часу множнага ліку: отповѣди божскїи выполнени суть — отповѣди божскии выполнены суть; волцы .. не могутъ быть мѧса насычени — волцы... не могутъ быть мѧса насычены.

Старажытныя формы некаторых колькасных лічэбнікаў сустракаюцца ў Маскоўскім спісе, а не ў Ленінградскім: седмъ — семь.

Да найбольш старажытных дзеяслоўных форм у Маскоўскім спісе ў адрозненне ад Ленінградскага адносяцца такія, як захаванне канчатка -ши ў другой асобе адзіночнага ліку (пиеши — пиешъ, отѣдеши — отедешъ), больш частае ўжыванне ў формах прошлага часу мужчынскага роду адзіночнага ліку з асновай на зычны канцавога -лъ (реклъ — рекъ, злѧклъсѧ — злѧкъсе), пашыранае выкарыстанне дзеепрыметнікаў незалежнага стану цяперашняга часу, якія ў другім рукапісе заменены адпаведнымі дзеепрыслоўямі (сивизну маючїй — сивизну маючи, люди лесныи мешкаючїи — люди лесныи мешкаючи, невѣсты маючїи бороды — невѣсты маючи бороды).

Пры параўнанні лексікі выяўляецца, што ў абодвух спісах пашыранымі з'яўляюцца словы, якія ляглі ў аснову сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Разам з тым тут прадстаўлена некаторая колькасць царкоўнаславянізмаў, якія, аднак, пераважаюць у Маскоўскім спісе, а не ў Ленінградскім, дзе яны заменены адпаведнымі словамі, характэрнымі і для сучаснай беларускай літаратурнай мовы: во одежди — во оденю, хранить — ховать.

Звяртаюць на сябе ўвагу выпадкі ўжывання некаторых лексічных архаізмаў, якія сустракаюцца ў абодвух аналізуемых тэкстах. Калі перакладчык Маскоўскага спіса пакідаў іх (лексічныя архаізмы) без якіх-небудзь каментарыяў, то перакладчык Ленінградскага спіса найбольш устарэлыя словы, пераважна царкоўнаславянскія, якія яму здаваліся незразумелымі або малазразумелымі, растлумачваў на палях рукапісу агульнанароднымі простымі словамі тагачаснай беларускай мовы: уфы — силы, смоковъ — звѣрѧтъ, овочовъ — зельѧ, прибытки — наметы, капища — церкви, церковъ — божница, бестыи — звѣрѧта, жерцы — попы, зпереду — напервей, столпы — образы, образы — балваны.

Аналізуемыя рукапісы былі даволі незалежнымі ад узораў польскай мовы, хаця асноўнай крыніцай для іх і паслу-

жыў польскі пераклад «Александрыі». Перакладчыкі іх шырока выкарыстоўвалі багатыя і пашыраныя ў той час формы і сродкі жывой беларускай мовы, аднак ім не ўдалося поўнасцю пазбегнуць уплыву некаторых паланізмаў. У сувязі з гэтым неабходна адзначыць, што ўздзеянне польскай мовы на разглядаемыя спісы аказалася нераўнамерным. Параўнанне тэкстаў паказвае, што больш-менш прыкметныя сляды ўплыву польскай мовы праявіліся ў Маскоўскім спісе. Аб гэтым сведчаць некаторыя словы, якія ў Маскоўскім рукапісе можна лічыць паланізмамі, у той час як у Ленінградскім яны нярэдка заменены адпаведнымі эквівалентамі беларускай мовы: барзо—вельми, оздобнаго—коштовного, валчили — воевали. Уплыў польскай мовы сказаўся і на паасобных граматычных формах, асабліва на дзеяслоўных, якія пераважаюць зноў-такі ў Маскоўскім, а не Ленінградскім спісе, дзе яны заменены адпаведнымі беларускімі эквівалентамі: опочивамы — отпочиваемы, выежчамы — выежчаемы, повѣдамы — повѣдаемы, невѣсто почалась оборонителѧ твоего — невѣсто почала есь оборонителѧ твоего, неумѣентность — неумѣетность, незвитенжоный — незвитежоный, першое — першое, першого — першого.

Зробім цяпер заўвагі адносна некаторых моўных рыс, якія ў Ленінградскім спісе можна прызнаць найбольш старажытнымі ў параўнанні з адпаведнымі рысамі Маскоўскага спіса. Для Ленінградскага спіса характэрным з'яўляецца ўжыванне спалучэння **тс**, тады як у Маскоўскім гэтаму спалучэнню адпавядае афрыката **ц**: египетский — египецкий, египетского — египецкого, евротский — евроцкий. У закрытых складах перад цвёрдымі і мяккімі зычнымі замест вядомай у Ленінградскім рукапісе літары ѣ Маскоўскі рукапіс мае літару **и**: всѣхъ — всихъ, всѣмъ — всимъ, довтѣпъ — довтипъ, дѣтѧ — дитѧ, дѣтѧми — дитѧми, неусмѣренный — неоусмиренный.

Мова Ленінградскага спіса характарызуецца таксама некаторымі старажытнымі марфалагічнымі рысамі, якія не адпавядаюць марфалагічным рысам, уласцівым Маскоўскаму спісу. Сярод склонавых форм назоўнікаў у Ленінградскім рукапісе наглядаецца захаваннеканчаткаў **-е**, **-еве** ў назоўным склоне множнага ліку (асновы на **-о**, **-у**) пры перадачы іх (канчаткаў) у Маскоўскім рукапісе праз **-и**, **-еви** (судеве — судьи, мужеве — мужеви); ужыванне ў родным склоне адзіночнага ліку (асновы на **-а** і на зычныя) канчаткаў **-е**(**-ѣ**), у Маскоўскім **-и**, **-ы**, **-ѧ** (кнѧжате — кнѧжати, ковнатѣ — ковнаты, камене — каменѧ); наяўнасць у родным склоне множнага ліку (асновы на **-о**, **-и**) канчатка **-ий**, у Маскоўскім **-ей** (людий — людей, противностий — противностей, повѣстий — повъстей, сѣтий — сѣтей, мыслий — мыслей, тисѧчий — тысѧчей); выкарыстанне ў давальным склоне адзіночнага ліку

(аснова на **-а**) канчатка **-и** і ў давальным склоне множнага ліку **-емъ**, у Маскоўскім **-у, -ѧмъ** (пердыки — пердыку, конемъ — конѧмъ); ужыванне ў месным склоне адзіночнага ліку (асновы на **-о, -а**) канцавых **-ѣ, -ѣи**, у Маскоўскім **-у, -їи** (на столцѣ — на столцу, по хребтѣ — по хребту, въ македонѣи — въ македонїи, въ медѣи — въ медїи). Пераход канцавога **-ѣи** ў **-їи** адлюстраваны таксама ў назоўніках (аснова на **-а**) роднага склону адзіночнага ліку: до алеѯандрѣи — до алеѯандрїи, до сирѣи — до сирїи, до персѣи — до персїи, до фригѣи — до фригїи, до киликѣи — до киликїи.

У радзе выпадкаў у Ленінградскім спісе сустракаецца канчатак **-ии** ва ўказальных і адносных займенніках і прыметніках у назоўным і вінавальным склонах множнага ліку пры адпаведнасці яму (канчатку **-ии**) у другім спісе **-ыи**: тии отповѣди — тыи отповѣди, египтѧне мудрии — египтѧне мудрыи, рвалъ зельѧ котории онъ вѣдалъ — рвалъ зельѧ которыи онъ вѣдалъ.

Указальныя займеннікі ў назоўным склоне адзіночнага ліку ў Ленінградскім рукапісе могуць ужывацца ў старажытнай кароткай форме, а ў Маскоўскім пераважаюць аналагічныя поўныя займеннікавыя формы: онъ—оный, ты—тый.

Дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу, а таксама некаторыя адносныя прыметнікі ў Ленінградскім спісе часцей ужываюцца па традыцыі з адным **н**, а не з падвоеным **н**, як гэта пераважае ў Маскоўскім спісе: не може быть жадны^м^ обычаемъ отменено — не може быть жадны^м^ обычаемъ отмененно, звитежствъ тобѣ отъ бога даныхъ — звитежствъ тобѣ отъ бога данныхъ, чоловѣкъ буде на царскии достойности поднесеный — чоловѣкъ буде на царскии достойности поднесенный, людемъ въ мѣстехъ по всѣмъ царствѣ перскомъ уставленымъ — людемъ въ местехъ по всемъ царствѣ перскомъ оуставленнымъ, въ печерахъ каменыхъ — въ печерахъ каменныхъ.

Марфалагічная структура прыслоўяў у Ленінградскім спісе некалькі адрозніваецца ад марфалагічнай структуры іх у Маскоўскім спісе. Так, у першым з іх пашыранымі з'яўляюцца прыслоўі, утвораныя ад меснага склону кароткіх прыметнікаў ніякага роду на **-е** (магчыма пад польскім уплывам), а ў другім — прыслоўі ад кароткіх прыметнікаў ніякага роду назоўнага-вінавальнага склону на **-о** (**-а**): непожитечне — непожиточно, окрутне — окрутно, гневливе — гневливо, мудре — мудра.

На гэтым у асноўным вычэрпваюцца тыя традыцыйныя кніжныя моўныя рысы, якія, як паказаў лінгвістычны аналіз, маюць месца ў абодвух рукапісных спісах, але пераважаюць у Маскоўскім спісе.

Параўнанне двух тэкстаў «Александрыі» дазваляе вырашыць некаторыя пытанні, звязаныя з выяўленнем такіх моў-

ных асаблівасцей, на аснове аналізу якіх можна выказаць меркаванне аб месцы напісання спісаў. У Ленінградскім спісе больш-менш паслядоўна адлюстраваны дыялектныя рысы, уласцівыя паўднёва-заходнім беларускім народным гаворкам, а ў Маскоўскім у большай ступені, чым у Ленінградскім, сустракаюцца асаблівасці, характэрныя для паўночна-ўсходніх беларускіх гаворак.

Захаванне зычнымі сваёй звонкасці ў становішчы перад глухімі шырока распаўсюджана ў Маскоўскім спісе. Нормай для Ленінградскага спіса з'яўляецца прыпадабненне звонкіх зычных да наступных глухіх і іх аглушэнне: двадцати — дватцети, одинадцатой —одинатцатой, свѣдчитъ — свѣтчитъ, прудкомъ—пруткомъ, тридцатью—тритцатью, дванадцатью—дванатцетью, розки — роски, з права — с права, зкригитати — скригитати. Калі глухія зычныя знаходзіліся ў становішчы перад звонкімі, то, наадварот, у Маскоўскім рукапісе яны азванчаліся, а ў Ленінградскім заставаліся без змянення: звязать — связать, звѧзаныхъ — свѧзаныхъ, звады — свады, прозьбу — просьбу.

Пераход шыпячых у свісцячыя перад свісцячымі — рыса, уласцівая Ленінградскаму спісу ў процілегласць Маскоўскаму, дзе ў аналагічных выпадках ужываюцца шыпячыя: убозство — убожство, бозской — божской, кнѧзства — кнѧжства, звитезство — звитежство.

У адрозненне ад Ленінградскага рукапісу, у якім пераважаюць формы з зацвярдзеннем этымалагічна мяккага р, у Маскоўскім пераважную большасць складаюць словы з захаваннем мяккага р: царъ — царь, цесаръ — цесарь, тваръ — тварь, звѣръ — звѣрь, вѣпръ — вѣпрь, ноздры — ноздри, вечера — вечерѧ, вѣру — вѣрю, узру—оузрю, рицера — рицерѧ. У Ленінградскім спісе наглядаецца хістанне ва ўжыванні р: мяккае р часам адлюстравана там, дзе павінна быць цвёрдае р, якое захоўваецца ў Маскоўскім спісе: рибы — рыбы, урираючи — оурываючи, угризаючи — оугрызаючи, которий — который, мудрий — мудрый, старий — старый, вторий — вторый, нѣкоторий — нѣкоторый. Змяшэнне цвёрдага і мяккага р, напэўна, можна растлумачыць тым, што перакладчык Ленінградскага рукапісу не заўсёды адчуваў розніцу паміж цвёрдым і мяккім вымаўленнем.

У марфалагічных адносінах Ленінградскі спіс характарызуецца такімі асаблівасцямі, як захаванне ў адушаўлёных назоўніках у вінавальным склоне множнага ліку форм неадушаўлёнасці, у Маскоўскім — форм адушаўлёнасці (вси поганы ускромимы — всихъ поганъ оускромимы; послать алеѯандрови корону золотую... презъ послы — послать алеѯандрови корону золотую... презъ пословъ); сцяжэнне галосных у канчатках якасных прыметнікаў — азначэнняў у назоўным

склоне мужчынскага і ніякага роду множнага ліку, у Маскоўскім — нясцягнутыя формы (были тыи дерева велми велики и высоки — были тыи древа велми великїи и высокїи; богове суть не смертелны — богове суть не смертелныи); захаванне ў інфінітыве не пад націскам форм на **-ти**, у Маскоўскім — форм на **-ть** (готовати — готовать, умерети — оумереть, взывати — взывать, писати — писать, утекати — оутекать); наяўнасць у дзеясловах загаднага ладу ў другой асобе множнага ліку пераважна канчатка **-ѣте**, у Маскоўскім — форм на **-ите** (приведѣте — приведите, отворѣте — отворите, приимѣте — прїимите, приворотѣте — приворотите, воротѣте — воротите, приступѣте — приступите, смотрѣте — смотрите); вельмі частае ўжыванне часціцы **-се** ў зваротных дзеясловах, у Маскоўскім — форм на **-сѧ** (сталосе — сталосѧ, указалсе — оуказалсѧ, засмутилсе — засмутилсѧ, народилсе — народилсѧ, поднесисе — поднесисѧ, соромейсе — соромейсѧ, зъехалисе — зъехалисѧ, попудилсе — попудилсѧ, розгнѣвалсе — розгнѣвалсѧ, квапилсе — квапилсѧ, годитсе — годитсѧ, положилъсе — положилъсѧ, оборотилсе — оборотилсѧ).

Адзначаны пералік дыялектных асаблівасцей паўднёва-заходніх беларускіх народных гаворак, якія знайшлі сваё адлюстраванне ў Ленінградскім спісе «Александрыі», дае падставу меркаваць, што ён напісан у паўднёва-заходняй, дакладней у паўднёвай частцы сучаснай Беларусі. Аб тым, што гэты спіс напісаны іменна на поўдні Беларусі, сведчаць яшчэ і такія адлюстраваныя граматычныя формы, якія з'яўляюцца спецыфічнымі для суседняй украінскай мовы. Зразумела, што ў паўднёвыя, прылягаючыя да Украіны раёны Беларусі больш свабодна пранікалі паасобныя ўкраінізмы, чым у помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці, якія пісаліся ў іншых месцах, хаця гэта з'ява ў XVII стагоддзі як агульная тэндэнцыя была заканамернай на беларускіх землях. Сюды адносяцца, напрыклад, ужыванне ў Ленінградскім спісе галоснага гука **и** на месцы літары ѣ, характэрнай для Маскоўскага спіса (априлы — апрѣлѧ); частая передача **и** праз ѣ (дѣты, у Маскоўскім — дитѧ, дѣтяти — дитѧти, довтѣпъ — довтипъ, вспомнѣлъ — вспомнилъ); пераход **о** ў **у** (фуртуна, у Маскоўскім — фортуна); наяўнасць канчатка **-ы** ў дзеясловах прошлага часу множнага ліку, у Маскоўскім — канчатка **-и** (паны... нас зо всѣхъ сторонъ роспорошилы — паны... нас зо всихъ сторонъ роспорошили; столпы... ижъбы не охолодѣлы — болваны ижьбы не охолодѣли); словы з украінскай агаласоўкай (котрий, скора, у Маскоўскім — который, скура).

У Маскоўскім спісе побач з перавагай дыялектных рыс, характэрных для паўночна-ўсходніх беларускіх гаворак, сустракаюцца і некаторыя моўныя асаблівасці паўднёва-заходніх раёнаў Беларусі. Напрыклад, тут можна сустрэць спа-

радычнае ўжыванне канчатка **-мо**[1] ў дзеясловах цяперашняга і будучага простага часу першай асобы множнага ліку пры адпаведнасці яму ў Ленінградскім спісе форм на **-мы**: пошлемо — пошлемы, выдамо — выдамы, держимо — державы, чинимо—чинимы. У назоўніках множнага ліку асноў на **-о** ў месным склоне пасля цвёрдых зычных у Маскоўскім рукапісе, акрамя канчатка **-ахъ**, наглядаюцца выпадкі ўжывання канчатка **-охъ** (въ тѣлахъ — въ тѣлохъ), чаго не знаходзім у Ленінградскім спісе.

На аснове прыведзеных моўных фактаў можна меркаваць, што Маскоўскі спіс «Александрыі» перакладзены на беларускую мову магчыма ў той групе сярэднебеларускіх народных гаворак (тэрыторыя іх дакладна яшчэ не вызначана), якія ўвасабляюць некаторыя дыялектныя рысы паўночна-ўсходняй і паўднёва-заходняй частак Беларусі.[2]

Скарочаны Ленінградскі спіс «Александрыі» ў тэксталагічных адносінах вельмі блізкі да поўных Ленінградскага і Маскоўскага спісаў, хаця ён і значна ўступае ім па аб'ёму. У некаторых месцах гэтыя спісы тэксталагічна супадаюць. Прывядзём урывак:

**Поўны Ленінградскі спіс:**

такъ много еси и пиешъ, ижъ жолудокъ великостю покармовъ ѡбтѧжоны' в розмаито$^{ст}$ хоробъ впадае, а тако$^{ж}$ пере$^{д}$ часо$^{м}$ сме$^{р}$ть поды'муешъ. все хочешъ ѡдержа$^{т}$, з чого тебе вси речи маю$^{т}$ заслугȣ, то$^{л}$ко сама неȣмѣетно$^{ст}$ рохмано$^{в}$ всей мудрости твое' пануе. абовѣ$^{м}$ если праве хочемы бачи$^{т}$, ѡнаѧ тебе ма$^{т}$ка породила, котораѧ каме$^{н}$е и дерева на свѣтъ выпȣстила. Ты приѡздоблѧешъ гробы твои, а всюды каменѧ коштовного поро$^{х}$ тѣла

**Скарочаны Ленінградскі спіс:**

та$^{к}$ мно$^{г}$ еси и пиешъ, и$^{ж}$ жолудо$^{к}$ велико$^{ст}$ю пока$^{р}$мо$^{в}$ ѡбтѧжоны' в ро$^{з}$маито$^{ст}$, хоро$^{б}$ впадае$^{т}$, А такожъ пере$^{д}$ часо$^{в}$ сме$^{р}$ть, поды'мȣешъ, все хоче$^{ш}$ ѡде$^{р}$жа$^{т}$, с чо$^{г}$ тебе вси речи маю$^{т}$ заслȣгȣ, то$^{л}$ко сама неȣмѣетно$^{ст}$ рохмано$^{в}$ все' мȣдрости твое' панȣе$^{т}$, абовѣ$^{м}$ если праве хоче$^{м}$ бави$^{т}$ ѡнаѧ тебе матка породила, котораѧ камѣ$^{н}$еи дерева на свѣ$^{т}$ выпȣстила, Ты приѡ$^{з}$доблѧешъ гробы твои и всюды камѣ$^{н}$ѧ коштовно$^{г}$ порȣ тѣла твое$^{г}$, заховы-

---

[1] Гл. аб ужыванні гэтых форм артыкул А. У. Арашонкавай «Дзеясловы канчатак -мо ў 1-ай асобе множнага ліку як дыялектная рыса беларускай мовы ў пісьменнасці XVI ст. («Весці АН БССР» № 2, 1958, стар. 114—121).

[2] Непераканаўчым у гэтых адносінах з'яўляецца сцверджанне А. Папова, які лічыў, што спіс хранографа Маскоўскай бібліятэкі, а значыць і змешчаны там поўны разглядаемы спіс «Александрыі» можна прызнаць паўднёварускай (украінскай) рэдакцыяй (Обзор хронографов русской редакции, вып. II. М., 1869, стар. 276).

твоего заховываешъ, и што го$^{р}$шого може бы$^{т}$ ѡдно тыи кости котории землꙗ мае принꙗ$^{т}$, не допȣщаешъ земли з тѣла твоего пока$^{р}$му взꙗ$^{т}$. Мы ку чти бого$^{м}$ бы$^{т}$ла не забиваемы, церквей не будȣемы, ани болвано$^{в}$ золоты$^{х}$ або сребрꙗны$^{х}$ не ставлꙗемы (л. 33 б.)

ваешъ, и што го$^{р}$шо$^{г}$ може быти ѡдно тыи, ко$^{с}$ти, которые землꙗ мае$^{т}$ принꙗ$^{т}$ не допȣщаешъ землѣ з тѣла твое$^{г}$ покармȣ взꙗ$^{т}$, Мы кȣ чти б[о]го$^{м}$ бы$^{д}$ла не забивае$^{м}$; болвани$^{ц}$ не бȣдȣемо ани бо$^{л}$вано$^{в}$ золоты$^{х}$ и сребраны$^{х}$ не ставимо (л. рофб.)

Разглядаемы Ленінградскі спіс «Александрыі» прадстаўляе сабой скарочаную рэдакцыю поўных спісаў. У ім дапушчаны многія скарачэнні, у выніку якіх вобраз Аляксандра Македонскага выступае ў няпоўным асвятленні. Аднак некаторыя месцы, выкладзеныя ў гэтым спісе, невядомы другім спісам «Александрыі» (напрыклад, эпізод аб марскім разбойніку Дыямедаўсу). Некаторыя месцы ў асобных раздзелах суправаджаюцца спасылкамі на грэчаскага пісьменніка Плутарха, візантыйскага імператара Юстыніяна I і рымскага паэта Валерыя Флака. Усё гэта даказвае тое, што скарочаны Ленінградскі спіс «Александрыі» знаходзіўся ў залежнасці не толькі ад поўных Ленінградскага і Маскоўскага спісаў, але і ад іншых крыніц. Я. Ф. Карскі, напрыклад, адзначае, што раздзелы хронікі М. Бельскага (дзе змешчана і «Александрыя»), якія не датычацца святой гісторыі, узнаўляюць польскі арыгінал М. Бельскага («Kronika wssytkyego swyata na ssesć wiekow á ná cżwory księgi tákież Monárchie rozdzielona, rozmaitych historij, ták w swyętym pismye yáko w prostym, z kozmagrafią nową y z rozmáitemi krolestwy...», 1554).[1]

Мова скарочанага Ленінградскага спіса «Александрыі» беларуская з параўнальна невялікай колькасцю паланізмаў: чловекъ, кроль, кролевати, иле, нендза, нендзный, опатреный. Сустракаюцца тут і некаторыя рысы, уласцівыя украінскай мове, напрыклад, змяшэнне **ы** і **и** (ходымъ, одынъ, путыли, окрути, обичаи, сыловане, пиха), пераход ѣ ў и (зрозумити, звирхний, утерпити). У тэксце названага рукапісу вельмі часта сустракаецца канчатак **-мо** ў дзеяслоўных формах цяперашняга і будучага простага часу першай асобы множнага ліку — дыялектнай рысы, пашыранай у паўднёва-заходняй частцы сучаснай Беларусі: слухаемо, мовимо, ховаемо, возимо, маемо, будуемо, оремо, чинимо, шукаемо, зносимо, забиваемо, помремо. На аснове двух апошніх адзначаных моўных асаблівасцей можна меркаваць, што скарочаны Ленінградскі спіс «Александрыі» быў напісаны дзесьці на паўднёва-заходніх беларускіх землях, недалёка ад Украіны.

[1] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III, вып. 2. Петроград, 1921, стар. 88.

Асноўнай крыніцай для няпоўнага Маскоўскага спіса «Александрыі» 1697 года, відаць, паслужыў тэкст Курніцкага спіса, з якім ён тэксталагічна ў аснове сваёй супадае. Вось урывак:

**Курніцкі спіс:**

Еги́птѧне на би́твꙋ проти́вꙋ алеѯа́ндра гото́вилисѧ, не хотѧчи̏ алеѯа́ндрꙋ поклони́тисѧ. тогда̀ алеѯа́ндръ о́коло еги́пта с во́йско$^{м}$ сто́ѧлъ, и велѣ́лъ со в'сѣ́хъ сторо́нъ на́ горо$^{д}$ би́ти. а в' то́тъ ча́съ ѕно́й вели́кїи бы́лъ, е́же не могло̀ во́йско терпѣ́ти ѿ си́лнаго ѕно́ю. а ѡзе́ро бы́ло бли́ско еги́пта вели́кого стꙋде́ное велми̏. алеѯа́ндръ не мо́гъ ѿ без'мѣ́рнаго ѕно́ю терпѣ́ти, и хотѣ́лъ охолоди́тисѧ, и напередъ во́йска своего̀ искꙋпа́тисѧ. тогда̀ во$^{д}$на́ѧ стꙋ́день перемогла̀ с[е]рдце его̀, и в не́мощъ вели́кꙋю в'падѐ. тог'да̀ во́йско в' вели́комъ стра́сѣ бы́ло, бꙋдꙋчи во страна́хъ дале́кихъ:· (л. р҃гі)

**Маскоўскі спіс:**

Египтѧне на битву противъ Алеѯандра, готовилисѧ не хотѧчи емꙋ по$^{д}$датисѧ, Алеѯанде$^{р}$ ѡколо египтꙋ, ѡбѣхалъ, и сталъ з воиско$^{м}$, и ве[лѣ]лъ зо всѣх' сторо$^{н}$ на горо$^{д}$ бити, а в то$^{т}$ ча$^{с}$ горѧчо$^{ст}$ великаѧ была и зной па$^{р}$ный, и не могло во[и]ско ѿ си$^{л}$наго великого зною те$^{р}$пѣти, тамъ же ѡзеро было близко егип'та, велико и быстро и стꙋдено, Алеѯанде$^{р}$ ѿ безмѣрнаго з'ною не могꙋчи те$^{р}$пѣти и схотѣлъ ѡхолодити, и в то$^{м}$ ѡзери в'перо$^{д}$ воиска скупалсѧ, тогда воднаѧ студе$^{н}$ перемогла с[е]р$^{д}$це его н теплоту ѡбернꙋла, и впаде$^{т}$ Алеѯанде$^{р}$ в немо$^{ч}$ великую, тогда в$^{s}$се воиско Алеѯандрово во страси великомъ было, бꙋдꙋчи в$^{s}$ чꙋжих$^{s}$ сторона$^{х}$ далеких' (л. 27 б. — 28).

На аснове параўнання гэтых тэкстаў можна канкрэтызаваць у нейкай меры выказванне А. І. Сабалеўскага[1], які лічыў, што аповесць па Маскоўскаму спісу прадстаўляе сабой свабодны пераклад з рускай мовы на беларускую адной (?) з рэдакцый старарускай «Александрыі». Прыведзеныя ўрыўкі, здаецца, не пакідаюць сумнення ў тым, што асновай для названага беларускага спіса «Александрыі» з'явіўся Курніцкі спіс.

Перакладчыку няпоўнага Маскоўскага спіса, акрамя Курніцкага рукапісу, былі вядомы таксама і другія рэдакцыі гэтага помніка, адкуль ён уносіў неабходныя ўрыўкі ў свой тэкст. Аб гэтым сведчыць, напрыклад, адлюстраваны ў першым і апушчаны ў другім эпізод аб сустрэчы Аляксандра

[1] А. И. Соболевский. Заметки о малоизвестных памятниках юго-западнорусского письма XVI — XVII вв. Киев, 1894, стар. 22.

Македонскага з незвычайнымі людзьмі, якія сваёй хітрасцю хацелі яго ашукаць, аднак ён іх перамагае і, нарэшце, знішчае. Або наадварот: звесткі аб самагубстве Раксаны пасля смерці Аляксандра, якія расказаны па Курніцкаму спісу, у няпоўным Маскоўскім адсутнічаюць.

Мова Маскоўскага спіса 1697 года вельмі блізкая да мовы некаторых старажытных перакладных беларускіх помнікаў XV — XVI стагоддзяў: тут можна сустрэць яшчэ спарадычнае ўжыванне рэштак аорыста: рече, прїиде, нача. Гэты спіс цікавы тым, што вядома месца і час яго напісання (пісец дзяк Васіль Гаўрылавіч Мянжынскі жыў у Мазыры, 1697 г.).

У Маскоўскім спісе 1697 года шмат моўных асаблівасцей, характэрных для беларускай мовы, напрыклад, частая замена ѣ праз е (ведалъ, змешалися); пераход у першым пераднаціскным складзе галоснага гука о ў а(шаломъ); ужыванне ў паслянаціскных складах е на месцы юса малога (видечи, тисеча); адлюстраванне галоснага гука ы пасля шыпячых: даровавшы, ставшы, обачившы, чашы, вышовшы, почавшы, моцънѣйшый, жывыхъ, межы); зацвярдзенне зычнага гука р (дарый, господара, звѣрата, мора, закрычала, цара); наяўнасць цекання (мѣсцу); ужыванне афрыкаты дж (приежджати); ужыванне дзеяслоўных форм будучага простага часу ў значэнні прошлага часу (Алеѯандеръ взялъ макидонское воиско и поидетъ против ихъ). Разам з тым у гэтым спісе адлюстраваны некаторыя ўкраінізмы, напрыклад передача ѣ праз и (повидали, веливъ, посмотривъ, издячого, роздилилъ, побижитъ, стрилѣ, исти, дитина, ихалъ); выпадкі ўжывання галоснага гука ы замест и (бытва, поплысты, мылый, добыты).

Урывак з Ленінградскага спіса «Александрыі» XV стагоддзя па памеру невялікі, а таму цяжка меркаваць, з якой крыніцы і дзе ён быў перакладзены на беларускую мову. Можна толькі сказаць, што па мове, стылю выкладання і сюжэту ён стаіць бліжэй да Маскоўскага 1697 года і Курніцкага спісаў «Александрыі», чым да іншых вядомых нам тэкстаў аднайменнай аповесці.

Курніцкі спіс «Александрыі» (229 л.), напісаны паўуставам канца XVI — пачатку XVII стагоддзя, складаецца з 40 раздзелаў, кожны з якіх выдзелены спецыяльным загалоўкам. У тэксце паслядоўна захаваны знакі прыпынку, а таксама розныя надрадковыя знакі: прыдыханні, націскі, цітлы, апострафы і інш. У рукапісе змешчаны таксама некаторыя прыпіскі, якія хаця і не маюць прамой сувязі з сюжэтнай канвой аповесці, але даюць пэўнае ўяўленне аб падзеях, якія адбываліся пасля напісання дадзенай рэдакцыі помніка, аб некаторых яго ўладальніках, часе і месцы, адкуль ён трапіў у Польшчу.

У прыпісцы, напісанай дробным некалькі скошаным паўуставам XVII стагоддзя, паведамляецца аб смерці рускага цара Івана Аляксеевіча (брата Пятра I), які памёр, як вядома, у 1696 годзе. Далей гаворыцца аб двух ваенных паходах вялікага цара і князя «всеа великиѧ и малыѧ и бѣлыѧ росїи» Пятра Аляксеевіча пад Азоў, які ён заваяваў пры другім паходзе і назначыў там ваяводай князя Пятра Рыгоравіча Львова. З гісторыі вядома, што першы паход пад Азоў адбыўся ў 1695 годзе, а другі — у 1696 годзе.

Адна скарапісная прыпіска, датаваная 31 жніўня 1723 года, знаёміць нас з прозвішчам уладальніка рукапіснага спіса «Александрыі» — капітанам Калужскай правінцыі Андрэем Іванавічам Кірынрэйскім. У другой жа (1712 г.) толькі гаворыцца, што ў Пярэмышскім павеце Смаленскай губерні на рацэ Жыздры зямля князя Шароўкіна межавала з зямлёй Фёдара Іванавіча Ражнова. Цікавай з'яўляецца таксама пазнейшая прыпіска ў рукапісе на польскай мове. Тут адзначаецца, што гэты спіс быў атрыманы 16 снежня 1804 года ў дар ад Дазылянаў у Вільні (магчыма, у гэтым годзе ён трапіў адсюль у Польшчу). Прыведзеных прыпісак дастаткова для меркавання аб тым, што разглядаемы рукапісны спіс «Александрыі» быў пашыраны сярод славянскіх народаў.

Вывучэнне рукапісу паказала, што гэта самастойная сербская рэдакцыя[1] аповесці, якая тэксталагічна не супадае ні з адной з рэдакцый старарускай «Александрыі», выдадзенай В. М. Істрыным. Пры супастаўленні зместу тэкстаў высветлілася, што побач з агульнымі месцамі, характэрнымі для вядомых нам старарускіх спісаў «Александрыі», у Курніцкім наглядаюцца некаторыя разыходжанні. Гэтыя разыходжанні заключаюцца ў некаторых новых сюжэтных лініях або канкрэтызацыі многіх падрабязнасцей, дзякуючы якім вобраз Македонскага выступае ў новым, дадатковым асвятленні, напрыклад раздзелы, дзе паведамляецца аб заваяванні Аляксандрам Куманскага царства і забойстве цара Архідона, аб перамозе Аляксандра над войскам лідонскага цара Окліса і захопе яго ў палон, аб выступленні Аляксандра супраць Мерселунскага царства і перамозе над Еўрамітрам і інш.

Адзначаныя моманты з'яўляюцца паказчыкам таго, што арыгіналы Курніцкага спіса і апублікаваных спісаў старарускай «Александрыі» былі розныя. На гэту акалічнасць указвае таксама і канец аповесці: у выдадзеных старарускіх спісах аповесць канчаецца смерцю і пахаваннем Аляксандра Македонскага, а ў рукапісным спісе — смерцю і пахаваннем Аляксандра і яго жонкі Раксаны.

Акрамя гісторыка-літаратурнага значэння, Курніцкі спіс «Александрыі» мае вялікую цікавасць для лінгвістаў пры да-

[1] Яна супадае з рукапісамі Ленінградскай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (Q. XVII. 27; Q. XV. 13; Q. XV. 27; Q. XVII. 12).

следаванні пытанняў гістарычнага развіцця граматычнага ладу і слоўнікавага саставу ўсходнеславянскіх моў. Не закранаючы разгляду рускіх моўных асаблівасцей, адзначым толькі, што гэты рукапіс па мове з'яўляецца блізкім да некаторых перакладных помнікаў старарускай пісьменнасці XV—XVI стагоддзяў. Прывядзём урывак:

м$^{s}$ногȣ же минȣ́вшȣ в$^{s}$ре́мени, роди́сѧ ц[а]рю фили́ппȣ с[ы]нъ тогда̀, и наречѐ и́мѧ емȣ̀ алеѯа́ндръ, по грѣ́ческомȣ ꙗзыку, си́рѣчъ, из$^{s}$бра́нный мȣ́жъ из$^{s}$бра́нъ и$^{з}$ мла́да ꙗвлѧ́шесѧ, смире́нъ, и красе́нъ, и бл[а]гоѡб$^{s}$разенъ ꙗвлѧ́шесѧ ко в$^{s}$сѣ́мъ зрѧ́щимъ его̀. сїе́ же нѣ́сть ѿ тѣле́снаго рожъде́нїѧ, ни ѿ человѣ́ческаго оутъворе́нїѧ, но всѣ́мъ вино́в$^{s}$наго бл[а]ги́мъ вели́каго б[о]га саваѡда про́мысломъ. помога́ющȣ же к$^{s}$ семȣ̀ имѧ́ше есте́ственȣю добродѣ́тель. сла́вȣ же и б[о]га́тъство ꙗ́ко тлѣ́нно и мимо текȣщее мнѧ́ше. долготѣрпѣли́въ же к$^{s}$ согрѣша́ющимъ бы́сть. цѣломȣ́д$^{s}$рїе же и мȣ́жество вели́ко стѧжа̀. си́ми же четы́рми добродѣ́телми, в$^{s}$селе́нскимъ конце́мъ ц[а]рь и самоде́ржецъ наз$^{s}$васѧ (л. в͠.).

Разглядаемы спіс «Александрыі» цікавы яшчэ і тым, што ў ім знаходзім моўныя рысы, уласцівыя беларускай мове: наяўнасць акання (залатую, лактей, раждаетсѧ); ужыванне спалучэння **тъцк** на месцы старажытнага **тьск** (пелагитъцкій ц[а]рь, египетъцкому ц[а]рю); пераход **стн** у **сн** (жалосно); зацвярдзенне шыпячых (жывыми, пошолъ, бѣгающыѧ); дысіміляцыя зычных у выніку падзення рэдуцыраваных (нихто, што). У рукапісе шырока адлюстраваны пераход **л** у **в** пасля галосных у дзеясловах прошлага часу: дарїй прочитавъ листъ, и смеѧвъсѧ; сїе же алеѯандръ слышавъ и на персы разгнѣвавсѧ, и в женскїѧ свиты облече ихъ; философъ великой жалости наполнивъсѧ, и отиде отъ нихъ; алеѯандръ ...оубоѧлсѧ, и поставивъ оксамиту възѧ$^{в}$ и образъ тотъ, и писмо объвивъ чтобъ македонѧне прочитали.

У галіне марфалогіі праяўляецца няўстойлівае ўжыванне канчатка **-а(-я)** і **-у(-ю)** у назоўніках мужчынскага роду адзіночнага ліку роднага склону. З аднаго боку, тут назіраецца пранікненне канчатка **-у** ў формы назоўнікаў з канкрэтным значэннем (исъ полку выбѣгалъ), а з другога — ужыванне форм на **-а** ў назоўніках, якія абазначаюць абстрактныя, непрадметныя паняцці (сорома не имѣетъ). Сярод скланавых форм назоўнікаў сустракаецца таксама канчатак **-охъ** (цяпер дыялектная рыса некаторых паўднёва-заходніх беларускіх гаворак) у месным склоне мужчынскага роду множнага ліку: на щитохъ, на станохъ.

Побач з поўнымі формамі якасных прыметнікаў у разглядаемым спісе дапускаецца ўжыванне сцягнутых канчаткаў

-ы, -и ў назоўна-вінавальным склоне мужчынскага роду адзіночнага ліку: велможа любимы; праведный и богаты иовъ жилъ; козелъ однороги; зъбройный стрекунъскі вискъ. Пры выражэнні цяперашняга або будучага простага часу ў рукапісе адзначаюцца формы трэцяй асобы адзіночнага ліку без канчатка -тъ (чересъ тотъ мостъ перейде; тогда воднаѧ студень перемогла с[е]рдце его, и в немощъ великую впаде; мнѣ сѧ такъ здае), а ў трэцяй асобе множнага ліку сустракаюцца формы на -мо — дыялектная рыса старажытнай і сучаснай беларускай мовы (персовъ поразити маемо).

Даволі шырока для выражэння мадальных адценняў значэння ў рукапісе адлюстравана скарачэнне нязменнай часціцы бы ў бъ пасля слоў, якія канчаюцца на галосныя гукі: коли бъ еси ты оучинилъ такъ то бъ алеѯандръ оубилъ; тогда бъ еси всю перскую землю возвеселилъ; не оударила бъ менѧ перскаѧ рука какъ македонскаѧ; рада бъ есмь с[ы]на имѣти тѧ; хотела бъ с[ы]на имѣти; въсему бъ своему господинъ былъ. У аналагічных умовах часта наглядаецца таксама адпадзенне канцавога -е ў часціцы же: филона жъ и анътїоха, и птоломеѧ, на особной трапезе посади; они жъ рекоша; чему жъ еси не могъ дарїю пособити; было жъ велми дивно; самъпсонъ сильный от жены жъ погибъ; и коли жъ ц[а]рь филиппъ оузрѣлъ.

У галіне сінтаксісу Курніцкі спіс «Александрыі» характарызуецца многімі рысамі, уласцівымі для рускай і беларускай моў. Разам з тым тут сустракаюцца і такія асаблівасці, якія на фоне іншых асаблівасцей можна прызнаць пануючымі ў беларускай мове. Гэта такія з'явы, як ужыванне дзеяслоўных форм будучага простага часу ў значэнні прошлага часу (тогда ц[а]рь филиппъ видѣвъ такую бѣду надъ собой, и с малымъ войскомъ побѣжитъ за нимъ; наскорхосъ побїетъ филиппа, и ранитъ его смертною раною, и свалитъ его с конѧ); наяўнасць спалучэння прыназоўніка до плюс родны склон назоўніка для абазначэння накіраванага дзеяння адпаведна рускаму спалучэнню к плюс давальны склон назоўніка (листъ до лѣкарѧ; о приходе алеѯандрове до царѧ селунъскаго архидона; о прихожденїи алеѯандрове до анътина города; ц[а]рей поимавши с собою привели до алеѯандра; алеѯандръ ходитъ до нектонава на наоуку).

У складзе лексікі Курніцкага спіса «Александрыі» маецца даволі вялікая колькасць слоў, пашыраных у беларускай мове. Сярод гэтых слоў можна выдзеліць тры асноўныя групы.

Да першай групы адносяцца словы, не ўласцівыя старарускай мове, але якія ўжываліся ў старажытнай беларускай мове: розъмаитый, витѧжство (= звитяжство), отповѣдати, заповѣдати, къруль, извалчити, мешкати (у значэнні «жыць»),

прутько, посполу, посполъ, ведлугъ, посполитый. Прыведзеныя словы амаль не захаваліся ў сучаснай беларускай мове: яны з'яўляюцца ў сваёй большасці запазычаннямі з польскай мовы. Гэта зразумела, таму што тэрыторыя беларускага народа доўгі час знаходзілася ў складзе Рэчы Паспалітай.

Другую групу складаюць словы, якія ўжываліся ў старажытных рускай і беларускай мовах, але ў далейшым яны сталі нормай для беларускай мовы: робити, той, бо, мати, матка, добре, тажко, соромъ, скарбъ, кривда, коло, вѣдати, кликати, вельми, чародѣй, жонка, господарь, домовъ (у значэнні «дадому»).

Да трэцяй групы адносяцца словы, не характэрныя для старарускай мовы, але пашыраныя ў старажытнай беларускай мове і дажыўшыя да апошняга часу: або, инъший, гукъ, што, коштовный, зъбромъ, ратунокъ, моцъ, але, спочатку, початокъ.

Выкарыстанне граматычных і лексічных сродкаў беларускай мовы ў Курніцкім спісе «Александрыі», відавочна, было абумоўлена тым, што ён перапісваўся дзесьці на тэрыторыі Беларусі (магчыма, у паўднёва-заходняй частцы) або перапісчыкам яго з'яўлялася асоба, якая была знаёма з беларускай мовай.

Адшуканыя рукапісныя спісы «Александрыі» не гарантуюць поўнага выяўлення ўсіх рэдакцый названай аповесці. Магчыма, у бібліятэках і архівах захоўваюцца невядомыя да гэтага часу беларускія тэксты «Александрыі».[1]

У гэтай кнізе друкуюцца тэксты пяці спісаў «Александрыі». У тэксталагічна супадаючых поўных беларускіх спісах за аснову прыняты найбольш каштоўны ў моўных адносінах Ленінградскі спіс (Л). З рукапісу па Маскоўскаму спісу (М) у заўвагах прыводзяцца фанетычныя, марфалагічныя, сінтаксічныя, лексічныя і арфаграфічныя варыянты. Затым падаецца блізкі да іх скарочаны Ленінградскі спіс. За ім змяшчаецца Курніцкі спіс, за якім ідзе тэксталагічна супадаючы з ім у аснове сваёй няпоўны Маскоўскі спіс 1697 года і, нарэшце, блізкі па сюжэту да іх — няпоўны Ленінградскі спіс.

Для палягчэння самастойнай работы даследчыкаў над тэкстам кніга забяспечана слоўнікам незразумелых і малазразумелых устарэлых слоў, дзе раскрываюцца адпаведныя, уласцівыя толькі гэтаму кантэксту адценні значэння, імен-

---

[1] Невялікі рукапісны ўрывак з «Александрыі» XVI стагоддзя на царкоўнаславянскай мове з паасобнымі беларускімі моўнымі рысамі, па сведчанню Я. Ф. Карскага, захоўваўся ў бібліятэцы Красінскіх у Варшаве, № 408, XVI (Белорусы, т. III, вып. 2. Петроград, 1921, стар. 69).

Асобны рукапісны спіс «Александрыі» пачатку XVII стагоддзя, напісаны на царкоўнаславянскай мове з беларусізмамі, змешчаны ў хранографе, які захоўваецца ў бібліятэцы Акадэміі навук Літоўскай ССР у Вільнюсе (№ 110).

ным і геаграфічным указальнікамі, заўвагамі, у якіх агавораны відавочныя выяўленыя памылкі, дапушчаныя ў рукапісах, а таксама некаторыя старажытныя граматычныя формы. Асобна ў заўвагах агавораны словы і пазнейшыя прыпіскі на палях некаторых лістоў рукапісаў і варыянты тых форм, напісанне якіх адрознівалася пры пераносе слоў у канцы і ў пачатку лістоў рукапісаў. У кнізе прыводзіцца спіс літаратуры аб «Александрыі» і ўзоры рукапісаў.

Усе спісы «Александрыі» друкуюцца суцэльным наборам з захаваннем тагачаснай графікі, арфаграфіі і пунктуацыі, але канец радкоў рукапісаў абазначаецца прамой вертыкальнай рыскай, а канец лістоў—дзвюма вертыкальнымі рыскамі. Цітлы раскрыты, і ўстаўленыя літары ўзяты ў квадратныя дужкі ў кожным канкрэтным выпадку. У квадратныя дужкі заключаны таксама адноўленыя першыя літары слоў, якія аказаліся прапушчанымі ў некаторых тэкстах. Прапушчаныя словы ў тэксце, але дапісаныя другім пісцом, выдзелены ў кнізе разрадкай.

*У. В. Анічэнка*



